АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

2 – 8 КАСТРЫЧНІКА 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 5000 РУБЛЁЎ
№40 (180)

МЯДЗЕЛ

## Як Мядзел горадам стаў

На мінулым тыдні прайшла сесія Мінскага абласнога Савета дэпутатаў. На ёй Мядзел атрымаў статус горада, прычым абласнога падпарадкавання.

Мядзел з 8,3 тысячамі насельніцтва, без буйной прамысловасці. Магчыма, хутчэй для прэстыжу, чым для нейкіх выгод і перавагаў, мясцовыя дэпутаты прагаласавалі за змену статуса. Вобласць рашэнне падтрымала.

У райсавеце запэўнілі, што структуру гарадской выканаўчай улады фарміраваць ніхто пакуль не збіраецца. Дзяржаўны гандаль наўрад ці будзе развівацца. Захаваецца, як і быў, кааператыўны. Атрымліваецца, зменіцца толькі назва?

Гаворыць старшыня райвыканкома **Іосіф Варановіч**:

– Гарпасёлак можа атрымаць статус горада, калі ў ім жыве болей за 6,5 тысяч насельніцтва. Гэты мінімум у нас даўно. Калі я даведаўся, што так можна зрабіць, адразу паставіў пытанне. Пакуль нейкія дазволеныя новаўвядзенні не робім. А там паглядзім.

*Аддзел інфармацыі.*




*У Мядзеле ўсё даўно як у горадзе. Нават Гандлёвы дом ёсць.*

ФОТА З АРХІВА «РГ».

ВАЛОЖЫН

## Сіфоняць за мяжу

У фірменным магазіне "Акіян" ЗАТ "Валкамтранс" з'явіліся пластыкавыя сіфоны з кранамі, запраўленыя газіроўкай.

Каштуе навінка 67 тысяч. Сіфон вам абмяняюць на новы з даплатай усяго 10 тысяч. Пакуль што гэтыя сіфоны атрымліваюць з Масквы. Але ў хуткім часе іх выпуск наладзяць і ў Валожыне. Ужо сёння расійскія і літоўскія камерсанты дамаўляюцца аб пастаўцы сіфонаў за мяжу.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

РАДАШКОВІЧЫ

## Вось дык пятрушка!

Аб дакладнай даце прыезду імянітых гасцей у Мінск у Радашковічах ведаюць загадзя і дакладна.Прынамсі, агароднік Н., які тры гады як пастаўляе са свайго ўчастка ў адну са спецсталовак сталіцы пятрушку. Так было і цяпер падчас прыезду кіраўніка Рускай праваслаўнай царквы Алексія і прэм'ер-міністра Расіі Прымакова. Адно толькі, калі прыязджала ўрадавая дэлегацыя з Кітая, да яго паслуг не звярнуліся. Кітайцы не любяць пятрушку.

*Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ

## У планах новы цэх

На ліцейным заводзе пабудавалі ўласную кацельню. Яе магутнасцяў павінна хапіць, каб ацяпляць усё прадпрыемства.

Акрамя гэтага, у планах ўзвядзенне новага цэха. Там будуць выпускаць поршневыя кольцы для аўтамабільных рухавікоў розных мадыфікацый.

*Алесь СВІРЧУКОЎ.*

АСТРАВЕЦ

## "Second hand" па-астравецку

У Астраўцы адчыніў дзверы першы магазін таннага адзення "Second hand".

**Ала Шыманская**, гаспадыня "Алесі", заўважае, што хаця магазін і не ў цэнтры гарпасёлка, пакупнікоў хапае. А цэны на адзенне і сапраўды невялікія – самая дарагая рэч каштуе крыху больш за мільён рублёў.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Піва для боскіх служак

У магазінах з'явілася мясцовае бутэлечнае піва "Монастырский шепоток". На этыкетцы – духоўная асоба з чырвоным тварам ля кубка пеністага напою.

На піўзаводзе не растлумачылі, чым "шепоток" адрозніваецца ад традыцыйнага "Маладзечанскага" ці "Жыгулёўскага". Праўда, згадзіліся, што назва арыгінальная, і аналагаў яе ў рэспубліцы няма.

Маладзечанскі мастак **Мікола Аўчыннікаў** не ведае, хто з мясцовых творцаў рабіў малюнак. Хутчэй за ўсё, заказ выконвалі ў Мінску.




Царква на падзею пакуль не адрэагавала.

*Аддзел інфармацыі.*

СТЫХІЯ

# Ратуй, парасоне!

*МАЛАДЗЕЧНА. На праезнай часцы Віленскай, калі ехаць з маста на Старое Места, у аўторак быў сапраўдны патоп. Спачатку легкавушкі аб'язджалі небяспечнае месца па тратуары, але потым і там вада паднялася вышэй за нумарныя знакі.*

Вада трапляла нават у салоны праходзячых «Ікарусаў». Але на графіку руху аўтобусаў, як нам паведамілі ў аддзеле эксплуатацыі аўтобуснага парка, гэтая акалічнасць не адбілася. Яшчэ адно мора ўтварылася па Вялікім Гасцінцы ля вытворчага аб'яднання БелТІЗ. Праўда, 20-сантыметровую вышыню вады ўсе машыны праходзілі лёгка.

А вось навучэнкам палітэхнікума **Наталлі Жаўнерцы і Надзеі Краўчонак** дождж настрою не сапсаваў. Да месца яны ўспомнілі песню: «полгода плохая погода...» Спявалі і смяяліся.

*Васіль Савіцкі.*



*Навучэнкі Маладзечанскага палітэхнікума Наташа Жаўнерка з Канстанцінава і Надзя Краўчонак з Вілейкі толькі ўсміхаюцца. Дождж? Ну і што?*

ФОТА ВАСІЛЯ САВІЦКАГА.



*Вуліца Віленская выглядала як пераправа падчас вайсковых вучэнняў.*

ФОТА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА.

**Алегу Гулецкаму.**

Дарагі наш сябра і калега! Віншуем цябе з юбілеем. Пакуль ты ў адпачынку, мы ўзнімаем кілішкі за тваё здароўе. Жадаем вялікага асабістага шчасця. Сустрэць тую палавінку, якая цябе дзесьці шукае. Кахання, дабрабыту. Смялей і весялей крочпа жыцці. Ведай: у цябе ёсць на каго абаперціся.

*Калектыў "РГ".*

ПАЖАРЫ, КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## Гарыць ад рук злачынцаў і добрасумленных аматараў пакурыць

МАЛАДЗЕЧНА. У мінулую пятніцу машына з льном, якая належыць Вілейскаму ААТ "Буддэталь", накіроўвалася на льнозавод у Краснае. На Старым Месце лён загарэўся.

Запягнула дымам так, што спыніўся рух транспарту. Пажарныя машыну адбуксіравалі ў поле ля могілак. Груз там сцягнулі, збілі полымя. Лён дыміўся яшчэ 2 дні. Па версіі пажарных, узгаранне пачалося зверху, вадзіцель, хутчэй за ўсё, праз акенца выкінуў цыгарэту.

Таксама ў адзін з дзён напрыканцы мінулага тыдня на працягу гадзіны злачынцы падпалілі адразу дзве прыватныя машыны: "Волгу", што стаяла ля інтэрната (Будаўнікоў, 26), і Мерседэс, што стаяў літаральна праз 500 метраў (Вялікі Гасцінец, 135). Почырк той жа – выбілі шкло, адчынілі дзверцы, нешта ліналі і падпалілі.

*Аддзел інфармацыі.*

## Свае злодзеі

ВІЛЕЙКА. На працягу двух тыдняў два разы абакралі магазін у вёсцы Забар'е Ільянскага сельвыканкома. Злодзеямі былі двое мясцовых. Украдзеныя прадукты яны прыхавалі ў стагу саломы і пакрыху елі.

І яшчэ вызначыўся адзін жыхар вёскі Забар'е, які на працягу 2-х месяцаў здзейсніў 6 крадзяжоў.

*Алена ІРЫСАВА.*

## Жыццё – капейка

ВАЛОЖЫН. Ля вёскі Забрэззе знайшлі труп жыхара Дзямідавічаў.

Як потым высветлілася, стары чалавек гандляваў яблыкамі. За выручку – 350 тысяч рублёў – яго забілі трое мясцовых жыхароў. Прычым над ахвярай моцна здзекваліся.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Пагарэлі на саломцы

ВАЛОЖЫН. У пасёлку Багданаў ля чыгункі затрымалі расіянаў – жыхароў Смаленска. Муж і жонка адправіліся ў падарожжа па макавую саломку і ў мясцовай жыхаркі набылі 700 грамаў прадукту.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Цэгла ў цане

ВІЛЕЙКА. Ля магазіна №25 сустрэліся дзве кампаніі паддеткаў. Адна адной прапанавала купіць цэглу. Калі тыя адмовіліся, у ход пайшоў нож. Двое хлопцаў атрымалі раненні ў вобласць сэрца.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

## Ішлі хлапчукі "на справу"

АСТРАВЕЦ. Галаўным болем сталі для аператыўнікаў з мясцовага райаддзела міліцыі апошнія дні жніўня – спробы ўгону аўтамабіляў, крадзяжы аўтамагнітол і іншага.

Злачынцы дзейнічалі нахабна: разбівалі шкло ў той ці іншай машыне і спрабавалі завесці. Аднаго разу нават спроба ўгону скончылася тым, што аўтамабіль згарэў. Сярод мноства варыянтаў аператыўнікі не выключалі той, што ў Астраўцы з'явіліся "гастралёры", якія шукаюць машыну, каб затым прадаць яе ў Расіі. Развязку гэтаму ланцужку злачынстваў паклаў выпадак.

Падчас рэйду міліцыянеры заўважылі матацыкл "Мінск", які не спыніўся на патрабаванне дзяржаўтаінспектара. Праз некаторы час парушальнікаў затрымалі, а матацыкл аказаўся скрадзеным у аднаго з жыхароў райцэнтра. Далей высвятлілася, што двое 16-гадовых вучняў і 17-гадовы беспрацоўны займаліся крадзяжамі і ўгонамі аўтамабіляў – усяго здзейснілі 8 злачынстваў за непрацяглы тэрмін.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

СТАРЫ АЛЬБОМ




У 1947 годзе ў Маладзечне на тагачаснай Савецкай, а цяпер аднавіўшай сваю старажытную назву Віленскай вуліцы, адчыніўся настаўніцкі інстытут. 50 год таму, у ліпені 1948 года прайшоў яго першы выпуск. На здымку 1951 года студэнты інстытута з яго першым дырэктарам У. Алыцкім (сядзіць у 3-м радзе ў светлым касцюме).

*Алесь ЦАДКО.*

ФОТА З АЛЬБОМА ГАННЫ ЗЯНОВІЧ.

ПАРТНЁРСКІЯ СУВЯЗІ

# «Хлопчыкі ў вас ветлівыя»

***МАЛАДЗЕЧНА. Напачатку навучальнага года СШ №5 прымала гасцей з Нямеччыны.***

– Гэта ўжо трэці візіт нямецкіх школьнікаў у наш горад, – расказвае настаўнік нямецкай мовы **Аляксандр Круглы**. – Упершыню яны прыехалі ў горад у 1996 годзе з падарункам для райбальніцы. Прывезлі апарат для ультрагукавога абследавання, частку грошай на які сабралі нямецкія дзеці (52 тысячы марак), а 30 тысяч выдзеліў фонд "Дзецям Чарнобыля". Школа наладзіла сустрэчу нямецкім гасцям. Там і прагучала прапанова пра абмен школьнікамі. У ліпені мінулага года група нашых вучняў наведала Heinberg гімназію ў Гецінгене. Восем дзяцей і чатыры настаўнікі трапілі ў госці да сваіх сяброў.

Маладзечанская СШ №5 агульадукацыйная, але нямецкую мову дзеці тут вывучаюць з першага класа. Каб трапіць у склад групы, якая налета паедзе ў Германію, трэба не толькі выдатнае веданне мовы, але і вытанчаныя паводзіны, магчымасць добра прадставіць нашу краіну за мяжой. Добра, калі вучань мае слых і голас ці грае на якім–небудзь музычным інструменце, бо дзеці вязуць багатую забаўляльную праграму. Улічваюцца і ўмовы пражывання дома, бо гімназістаў з Нямеччыны пры візітах у адказ селяць у сем'ях і пажадана, каб у кожнага быў асобны пакой; нядрэнна, калі бацькі маюць машыну, бо школа не мае ўласнага аўтобуса. Але галоўнае, зразумела, мова. За яе веданне можна не хваляваецца.

Александр Круглы расказаў, што за ўзор навучання бярэ агульнаеўрапейскія нормы: маўленне, аўдзіраванне, лексіка–граматычныя тэсты, плюс шматлікія музычныя паўзы. Госці зрабілі цудоўны падарунак школе: падарылі камплект падручнікаў па нямецкай мове для 6–9 класаў, па гісторыі, культуры і рэлігіі.

Гасцей чакала цікавая і разнастайная праграма. На вакзале іх сустрэлі настаўнікі і вучні разам з бацькамі. Пазнаёміліся, уручылі кветкі і раз'ехаліся па сем'ях.

На другі дзень пасля афіцыйнага прыёму госці правялі экскурсію па школе, падыскутавалі з беларускімі школьнікамі на тэмы "паняцце прыгожага", "правы чалавека". А ўвечары паглядзелі канцэрт.

На працягу некалькіх дзён свайго візіту яны наведалі музей, палітэхнікум, медвучылішча, школу–інтэрнат для дзяцей з дрэнным зрокам, у раённай бальніцы паглядзелі як працуе падораны апарат. Нязвыклая мова не стала перашкодай для шчырага сяброўства паміж школьнікамі дзвюх краін.

— Мы шмат у чым падобныя, – сказала адна з нямецкіх дзяўчынак, – хіба што хлопчыкі ў вас больш ветлівыя.

*Злата ГУРЫНОВІЧ.*

КУЛЬТУРА

# Мінскі аблдрамтэатр пачынае сезон

**Мастацкі кіраўнік тэатра, заслужаны дзеяч культуры РБ Мікалай Мацкевіч:**

– Сезон пачынаем з прэм'еры. Ставім нямецкага драматурга Дорста "Гер Пауль". З ім маем намер паспяхова выступіць у Мінску на фестывалі нямецкай драматургіі (у кастрычніку) і з'ездзіць з гэтым спектаклем у Германію. Дарэчы, рэжысёр спектакля **Андрэй Бубышкін** – акцёр тэатра–студыі кінаакцёра.

***– Як і раней, візітная картка – "Двое на арэлях", пастаноўка, якая прадстаўляла тэатр на мінулай "Сакавіцы"?***

– Яшчэ "Пры зачыненых дзвярах". Мы імкнемся, каб у рэпертуары былі спектаклі з глыбокім зместам, разлічаныя на тэатралаў. А таксама для шырокага кола гледачоў – "Без мяне мяне жанілі", "Камедыя", "Вар'яцкі дзень ці два плюс два"...

***– Летась упершыню быў наладжаны творчы абмен першымі асобамі. Галоўны рэжысёр Гомельскага аблдрамтэатра Уладзімір Караткевіч у нас ставіў "Без мяне мяне жанілі". Вы ў Гомелі – "Чорную нявесту". Ці ёсць ад гэтага нейкі плён?***

– Безумоўна. На карысць



*Мікалай Мацкевіч.*

ФОТА АЎТАРА.

ідзе і супрацоўніцтва са сталічнымі акцёрамі. Тая ж **Вера Кавалерава** будзе і далей іграць у "Двое на арэлях", народная артыстка РБ **Марыя Захарэвіч** будзе весці майстар–клас.

***– Адбыліся нейкія змяненні ў трупе?***

– Развіталіся з адной актрысай. Будзем працаваць у тым жа складзе, як і раней. Магчымасці нашага творчага калектыву вялікія. І шчыра скажу, наш узровень вышэй, чым у калег з Гомеля. Сёння складана з беларускай драмай – то п'еса неглыбокая, нам не падыходзіць, то мы не ўпісваемся.

***– Вашы асноўныя творчыя памагатыя?***

– Галоўны мастак **Яўген Волкаў**. З ім мы яшчэ працавалі ў аматарскім тэатры. Рэжысёр **Венедыкт Растрыжанкоў**.

**Дырэктар тэатра Сяргей Вальковіч:**

– За лета мы зрабілі велізарны па аб'ёме рамонт. Шчыры дзякуй гарвыканкому, кіраўнікам гаспадарак раёна **Аляксандру Гірсу, Валянціну Халявінскаму**, начальніку ДРБУ–195 **Міхаілу Калашнікаву**. Да "Сакавіцы" плануем пафарбаваць фасад, паставіць светлавую бягучую рэкламу. Гарвыканком даў дазвол праз вуліцы нацягнуць рэкламныя плакаты. А яшчэ мы будуемся. Нашы акцёры **Віктар Багушэвіч, Аляксандр Пашкевіч, Таццяна Грасевіч, Алег Чачанёў** у хуткім часе ўедуць у новыя кватэры.

***– Тэатр мае статус абласнога. А вось старшыня аблвыканкома Пётр Пётух да вас заязджае?***

– У мінулым сезоне 4 разы наведваўся. На "Сакавіцы" быў і так, мімаходзь. Ведае нашы клопаты. А начальнік абласнога ўпраўлення культуры **Анатоль Акушэвіч** у нас штомесяц.

*Васіль САВІЦКІ.*

*Рэпертуар тэатра на кастрычнік змешчаны ў мінулым нумары "РГ".*

НАВАСЕЛЛІ

# Няма Дома культуры - будзе канцэртная зала

***МАЛАДЗЕЧНА. Выступленнем сімфанічнага аркестра Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі «Маладая Беларусь» пад кіраўніцтвам народнага артыста РБ прафесара, рэктара Акадэміі музыкі нашага земляка Міхася Казінца у музвучылішчы імя Агінскага сёння ў 16.00 урачыста адкрылася канцэртная зала.***

Па прызнанні аўтарытэтаў у галіне музычнага мастацтва, яна будзе адной з лепшых у краіне - па эстэтыцы, акустыцы, насычанасці інструментамі (толькі шыкоўных раяляў - чатыры). Дзякуючы энергіі і няўрымслівасці дырэктара вучэльні **Рыгора Сарокі**, падтрымцы Мінскага аблвыканкома, на яе афармленне было выдаткавана каля трох мільярдаў рублёў. Зала стане таксама і месцам правядзення выставак мастакоў горада, месцам дэманстрацыі работ навучэнцаў аддзялення дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва вучылішча.

Зала на некаторы час заменіць гарадскі Дом культуры, які ўсё будуецца.

*Аляксандр ЛАЗОЎСКІ.*

ВЕРСІІ

# У рацэ каля Данюшэва – шмат сярэбраных манет




***Якіх–небудзь 100 год таму па Віліі праходзіў ажыўлены гандлёвы шлях.***

У той час на рацэ было шмат перашкод, якія заміналі руху воднага транспарту. Яшчэ вядомы вучоны **К. Тышкевіч** (у час свайго вандравання па Віліі ў 1857 годзе) апісаў 39 парогаў – 12 з якіх найбольш небяспечныя. Іх яшчэ называлі сябрыннымі, бо рачнікі паасобку парогі не пераадольвалі, збіралі сябрыны і, дапамагаючы адзін аднаму, прапускалі праз перашкоды плыты і лодкі.

Каля вёскі Данюшэва (Смаргонскі р–н) знаходзіцца першы сябрынны парог на Віліі з назвай Прывітальны (глядзі схему). На ім два вялікія камяні - Верабей і Зязюлька.

Прайшоўшы гэты парог, купцы заўсёды кідалі ў ваду сярэбраныя манеты. Наогул, звычай кідаць манеты ў ваду бярэ пачатак з паганскіх часоў як звычай ушанавання сіл прыроды, толькі тады манеты замянялі хлеб–соль з прыгаворам "хлеб–соль вазьмі, мяне прапусці".

Такім чынам, каля Данюшэва на дне ракі ляжыць шмат сярэбраных манет.

Ускосным доказам з'яўляюцца знойдзеныя манеты на асушаных частках дна Дняпра ў час будаўніцтва ДнепраГЭСа.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

ДЗЕНЬ САСТАРЭЛЫХ ЛЮДЗЕЙ

## Выстаўка нашага аўтара

МАЛАДЗЕЧНА. У цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Максіма Багдановіча у сераду адкрылася выстаўка вядомага ў горадзе фотамайстра, аўтара «РГ», вядомага ў горадзе фотамайстра **Аляксея Фяцісава**. Хаця прымеркаваная яна да Дня пажылых людзей, на здымках Аляксея Кузьміча – сама маладосць.

Аляксей Кузьміч Фяцісаў, ветэран вайны і працы, фатаграфіяй заняўся адносна позна, але здолеў многага дасягнуць у творчасці – быў пераможцам рэспубліканскіх і саюзных конкурсаў, і цяпер, у сталым узросце, актыўна займаецца мастацкай фатаграфіяй.

*Аляксандр ЛАЗОЎСКІ.*

## Памяць не толькі добрымі ўчынкамі

МАЛАДЗЕЧНА. У доме–інтэрнаце, дзе жывуць састарэлыя, хворыя людзі, свята адзначалася шырока.

Зранку па сваёй "дамашняй" радыёсетцы з віншаваннямі гучалі песні мінулых гадоў. Потым усе сабраліся ў клубе. Спявалі, чыталі вершы. Цэнтральная гарадская бібліятэка падарыла каля 200 мастацкіх кніг, мастак **Рыгор Мяжуеў** – сваю карціну "Букет бэзу". Пазней у доме–інтэрнаце выступалі ансамблі "Харашуха", дзіцячай песні пры касцёле, "Крынічка" – цэнтра эстэтычнага выхавання. Прайшоў шашачны турнір.

Правесці свята дапамаглі і прыватныя структуры. "Каларыт" пачаставаў сваёй газіраванай вадой. Прадпрымальнік **Алег Рамановіч** выдаткаваў грошы. Да сумы адміністрацыя хоча дадаць заробленыя сваёй падсобнай гаспадаркай грошы і купіць фотаапарат. Каб людзі пакінулі пра сябе памяць не толькі добрымі ўчынкамі.

*Аддзел інфармацыі.*

## Ідуць пісьмы

АСТРАВЕЦ. За некалькі тыдняў да дня састарэлых людзей аддзел сацыяльнай абароны накіраваў у арганізацыі, калгасы, прадпрыемствы і прадпрымальнікам пісьмы.

У іх ёсць просьба аб пералічэнні на дабрачынны рахунак грошай, якія пасля будуць размеркаваныя сярод састарэлых. Ці не прасцей дапамагчы камусьці напрамую?

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ЮБІЛЕЙ

# Памяць пра Янкоўскага

***Споўнілася 80 год з дня нараджэння Фёдара Янкоўскага – беларускага мовазнаўцы, фалькларыста і пісьменніка (1918–1989), жыццё якога цесна звязана з Радашковічамі.***

Сюды ён прыехаў у 1948-м, маладым настаўнікам пасля заканчэння педінстытута ў Гродне. Яго літаральна прынеслі ў школу. З–за цяжкага ранення ён амаль не мог хадзіць. Выкладаў у старэйшых класах беларускую мову і літаратуру. Вучні насілі яго ў школу на ўрокі і з урокаў дадому. Жыллё настаўніку знайшлі насупраць школы па вул. Набярэжнай. Школа, пабудаваная талакой радашкоўцамі, толькі абжывалася. Пра гэтыя часы сам Янкоўскі пісаў: "У школу – гадоў праз чатыры пасля вайны – прыехаў малады, але з вельмі падарваным здароўем настаўнік. І кожную раніцу, на ўзыходзе сонца падаіўшы карову, спяшаючыся, каб не астыў сырадой, Ксеня Георгіеўна несла і падавала настаўніку збанок у акно. Лячыла сырадоем, цёпленькім, спажыўным, надоеным сваёю рукою. Лячыла без рэцэптаў. Лячыла ўвагаю, лячыла душою. Той настаўнік працуе і сёння. Вучыць, піша. Друкуе кніжкі. І не злічыць, колькі разоў успамінае ён настаўніцу шчыраю памяццю чалавека і чалавечнасці! Успамінае Настаўніцу. Настаўніцу Ксеню Раманоўскую, што вучыла дзетак, ратавала настаўніка так, як не кожная матка ўмее ратаваць сына".

Так Ксеня Георгіеўна выхадзіла чалавека, які пасля стаў доктарам філалагічных навук, прафесарам, заслужаным дзеячам навукі БССР.

Памяць аб Янкоўскім жыве на нашай зямлі.

*Мікола ЛІННІК.*

26 верасня 1998 г. на 58–м годзе раптоўна пайшоў з жыцця начальнік Беларускай чыгункі, кавалер ордэнаў "Працоўнага Чырвонага Сцяга" і "Знак пашаны", "Заслужаны Работнік Транспарту Рэспублікі Беларусь", двойчы "Ганаровы чыгуначнік"

**ЯЎГЕН ІВАНАВІЧ ВАЛАДЗЬКО.**

Калектывы Маладзечанскага чыгуначнага вузла глыбока смуткуюць з прычыны яго смерці і выказваюць глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.

ПРЫВІТАННЕ, ШВЕЦЫЯ!

# Шведскае мястэчка

**Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.**

***Швецыя з акна аўтобуса выглядае амаль як Беларусь. Такія самыя лясы, дзе-нідзе хмызнякі, статкі кароў удалечыні. Незвычайнае толькі мноства камянёў і скалаў. Сапраўднае адрозненне пачынаеш заўважаць, выйшаўшы на вуліцу шведскага паселішча. Часцей за ўсё, гэта мястэчка. Вялікіх гарадоў няшмат. Найвялікшы, Стакгольм, налічвае менш за 700 тысяч жыхароў.***

Шведскае мястэчка абавязкова мае гістарычны цэнтр-рынак і вуліцы, якія разыходзяцца ад яго. Дзе абмежаваны або зусім спынены рух транспарту. Гэта не азначае, што паблізу нідзе не будзе новых сучасных камунікацый, святлафораў. У нашым Ліндэсбергу, напрыклад, паралельна са старай вуліцай уздоўж усяго горада працягнулася новая, якая разгрузіла напружанне з транспартам.




У шведскім мястэчку не згубішся. Указальнік пакажа, дзе туалет, цэнтр або бібліятэка. Гарадок Нуру.



Газавы ліхтар, выраблены ў 1840 годзе ў Бірмінгеме і сёння свеціць ў гарадку Нура. Цяпер - электрычным святлом.

У мястэчку абавязкова некалькі лютэранскіх кірхаў. Лютэранская царква пакуль неадасобленая ад дзяржавы і займае вельмі важнае месца ў жыцці кожнага шведа, хто б ён ні быў па веравызнанні або нават атэістам. Царкоўны прыход- найдрабнейшая тэрытарыяльная адзінка Швецыі. Швед з'яўляецца на свет і паміра ў царкоўным прыходзе, дзе фіксуюцца гэтыя падзеі.

Гэта не значыць, што швед абавязкова пратэстант-лютэранін і што ў мястэчку не знайсці малітоўнага дому баптыстаў або прыхільнікаў царквы поўнага евангелія. Дарэчы, заняткі нашай групы праходзілі ў малітоўным доме баптыстаў, побач з якім стэнд-афіша, як ля нашых местачковых кінатэатраў, паведамляў аб мерапрыемствах, якія тут адбудуцца.



Цэнтр Ліндэсберга. Людзей амаль не відно- рабочы час шведы аддаюць працы.

ФОТА АЎТАРА.

У старой частцы 10-тысячнага Ліндэсберга (параўнайце з нашымі Радашковічамі або Івянцом ці Мядзелам), месціцца сучасны супермаркет, дзе можна купіць усё, пачынаючы ад пракладак Олбі і гумкі Орбіт да тэлевізара. У крамах горада заўсёды ў продажы агуркі, апельсіны, яблыкі, ананасы, ківі, экзатычная гароднінна ні аб назве, ні аб смаку пладоў якіх мы нават не маглі здагадвацца.

Галоўны рэстаран горада месціцца ў старажытнай драўлянай тыпова шведскай хаце, унутры якой гаспадары пастараліся пакінуць абстаноўку такой, якой яна магла быць. Нават прасы з вуглем, або вялікія нажніцы на сцяне ці медны бліскучы чайнік на паліцы тут абавязкова выконваюць сваю ролю. Цяпер, праўда, усяго толькі эстэтычную.

У шведскім мястэчку выдаецца мясцовая газета. Нашага фармату, але на поўны колер, на 24-32 старонкі. І, заўважце, штодня - шэсць разоў на тыдзень. У Ліндэсбергу колькі дзесяцігоддзяў выдаецца газета «Бергслагспостэн», якая кожнага ранку з'яўляецца ў скрынях 10 тысяч сем'яў гараджан і жыхароў яшчэ чатырох камунаў.

У шведскім мястэчку жывуць шведы, бежанцы з Босніі ці іншых краін з няўстойлівым палітычным кліматам.

У шведскім мястэчку любое аўто саступіць дарогу любому пешаходу.

У шведскім мястэчку людзі не садзяць градаў і не разводзяць дамашнюю жывёлу.

У шведкім мястэчку Ліндэсберг 15 агульнаадукацыйных школ. У адной з іх, дзе нам пашчасціла пабываць, вучыцца крыху больш за 300 вучняў.

У шведскім мястэчку ёсць паліцыя, але не відно паліцэйскіх.

У шведскім мястэчку ёсць суд, таварыства выратавання алкаголікаў, чыгуначная станцыя і аўтобусны прыпынак.

***Аляксандр МАНЦЭВІЧ.***

*Працяг будзе.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) | |
|---|---|---|---|
| | | 23.09 | 30.09 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 165 | **163** |
| Кілбаса сыравэндж. | 1 кг | 307 | **307** |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 104,9 | **126** |
| Селядзец салёны | 1 кг | 65-80 | - |
| Рыс | 1 кг | 73 | **73** |
| Цукар | 1 кг | - | **50** |
| Грэчка | 1 кг | 83 | **90** |
| Алей | 1 л | 148 | **155** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 26,9 | **29,3** |
| Маянэз | 250 г | 38 | **40** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 140 | **140** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 50 | **48** |
| Соус там. "Мінскі" | 0,5 л | 48 | **50** |
| Лімоны | 1кг | 180 | **150** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 51 | **30** |
| Масла | 1 кг | 120 | **120** |
| Тварог | 1 кг | 40 | **35** |
| Малако | 1,5 л | 10 | **10** |
| Бульба | 1 кг | 13 | **15** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 38 | **35** |

# Бывай, стыхійны рынак

**МАЛАДЗЕЧНА.** На апошнім пасяджэнні гарвыканкома адзначалася складаная санітарна–эпідэміялагічная сітуацыя ў горадзе. Таму яшчэ раз звернутая ўвага на выкананне майскага распараджэння выканкома аб упарадкаванні гандлю на тэрыторыі горада.

Забараняецца гандаль сельгаспрадуктамі без ліцэнзіі. Дазваляецца гандляваць толькі на калгасным рынку і ярмарцы, дзе гандлярам павінны прадаставіць месцы.

**ВІЛЕЙКА.** Пасля нядаўняй успышкі дызентэрыі вялікая ўвага надаецца гандлю малочнымі і мяснымі вырабамі. У магазінах на касах вісяць лістоўкі, дзе не рэкамендуюць купляць прадукты ў выпадковых гандляроў. Бабулек з кошыкамі яблыкаў таксама ганяюць – гандаль з зямлі не ў пашане.

***Аддзел інфармацыі.***

# Цукар з'явіўся...

***АСТРАВЕЦ. Пасля працяглай адсутнасці на паліцах прадуктовых пунктаў з'явіўся цукар.***

Праўда, каб яго было дастаткова, не скажаш. У кожную прадуктовую краму штодня яго даюць не больш за 100 кілаграмаў. Натуральна, перад адкрыццём выстройваюцца чэргі пакупнікоў, амаль як у пачатку 90–х гадоў.

***Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.***

# Узрадаваліся макароне

***АШМЯНЫ. Амаль тыдзень наведвальнікі харчовых крамаў не мелі магчымасці купіць макарону.***

Карэспандэнту "РГ" сітуацыю патлумачылі ў мясцовым райспажыўтаварыстве. У Ашмянах макарону вырабляе аб'яднанне грамадскага харчавання, але магутнасці малыя і не ў стане забяспечыць патрэбы насельніцтва. Таму гэты прадукт завозіцца з Барысава, Ліды, а таксама закупляецца ў камерцыйных фірмах. Больш за тое, у параўнанні з такім перыядам мінулага года продаж макароны павялічыўся ў 3 разы.

На сёння макарону можна купіць свабодна. Прадказаць далейшую сітуацыю не бярэцца ніхто.

***Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.***

ТЭЛЕФОН МІЛІЦЫІ – 02

# Знайсці чалавека

Валожынскім РАУС адшукваецца Таццяна Аркадзьеўна Янкоўская, 9.06.1983 года нараджэння, жыхарка в. Дубіна–Баярская Валожынскага раёна, якая 7 верасня 1998 года ў 19 гадзін 20 мінут прыгарадным аўтобусам прыехала на аўтавакзал Маладзечна, і па цяперашні час яе месцазнаходжанне не ўстаноўлена. Т. А. Янкоўская з'яўляецца інвалідам з дзяцінства, пакутуе на псіхічнае расстройства, пра сябе нічога паведаміць не можа.



Яе прыметы: на выгляд 13–15 год, рост 160–164 см, сярэдняга целаскладу, твар авальны, бледны, валасы кароткія, цёмна–русыя, вочы сінія, голас звонкі, гаворка неразборлівая, фігура сутулая, пры хадзе жэстыкулюе.

Апранутая: белая кофта з малюнкам у выглядзе выявы мужчынскай фігуры, штаны штроксавыя карычневага колеру, на нагах мужчынскія туфлі чорнага колеру.

**Просьба да грамадзян, якім што–небудзь вядома пра месцазнаходжанне Т. А. Янкоўскай, патэлефанаваць у г. Валожын па нумарах 55302, 55476 або 02 у бліжэйшы аддзел міліцыі.**

РЫХТУЕМСЯ ДА ЗІМЫ

# У Радашковічах мазуту хопіць на зіму

***– Пад жыллё мазут завезены на ўвесь ацяпляльны сезон, – гаворыць старшыня пассавета Аляксандр Кахоўскі, – але справа ў тым, што з 1,5 тысячы тон назапашанага вадкага паліва роўна палову з'ядае сацкультбыт: школа, дзіцячыя садкі, бальніца, магазіны.***

Цяпло ў кватэрах жыхароў пасёлка – традыцыйны галаўны боль кіраўніцтва мястэчка, ды і ўсяго раёна. Пазалетась людзі даслалі прэзідэнту ліст з просьбай дапамагчы. Тады за "круглым сталом" на керамічным заводзе рабочыя, як выйсце, заклікалі ехаць у сталіцу да "бацькі", каб той разабраўся і загадаў каму трэба. Але ўсе пытанні ўсё адно вырашаюцца на месцы.

У пасёлку каля 30 кацельняў. Асноўныя тры працуюць на жыллё і значную частку бюджэтнікаў – гэта кацельні Белмастацкерамікі, гаспадаркі імя Я. Купалы, "Камунальніка" (летась забралі ў керамічнага завода). Менавіта з апошняй кацельняй да перадачы было шмат праблемаў. Пазалетась мазут на завод завезлі. А выкарысталі яго на вытворчасць цэглы. І роўненька пад Новы год тэмпература ў кватэрах рэзка пайшла ўніз. Завод наогул закрылі. Сёння таксама ёсць небяспека – як бы, прыкладам, "Белмастацкераміка" не пусціла мазут на свае вытворчыя патрэбы. У рэспубліцы мазуту няма. Некаторыя структуры на такім дэфіцыце добра зарабляюць, прапануюць за тону па 18 мільёнаў (дзесьці ўдвая даражэй за дзяржрасцэнкі).

– Цеплыня ў кватэрах зімой (тэмпература па нормах павінна быць не ніжэй за 18°С) залежыць не толькі ад наяўнасці паліва. Таксама ад стану цеплатрас, іншых састаўных, – гаворыць старшыня пассавета. – Напрыклад, прамываем кацельню пры музычнай школе. Гэта каштуе 30 мільёнаў. Грошы не пералічылі, але спачатку справа, а потым ужо ўзаемаразлікі. У бытавікоў адзін кацёл у рамонце, рамантуецца печка. Пакуль не маем грошай на набыццё вугла на кацельню гаспадаркі імя Я. Купалы. Складанасцяў і праблемаў шмат. Але, упэўнены, усе іх вырашым. І перазімуем.

***Васіль САВІЦКІ.***

САНЭПІД

# Гнілое мяса

***МАЛАДЗЕЧНА. Падчас рэйду з работнікамі цэнтра гігіены і эпідэміялогіі ў розных куточках прадуктовых магазінаў, якія не бачыць вока пакупніка, мы ўбачылі шмат прадуктаў. Сапсаваных.***

Гастраном "Гасцінец" па вуліцы Будаўнікоў належыць ЗАТ "Талака". У адной з халадзільных камер ляжала 47 кілаграмаў незамарожаных курэй. Атрыманых яшчэ 9 ліпеня. Намеснік дырэктара магазіна **Таццяна Зінкевіч** сказала, што куры ў продаж не трапілі. Як прывезлі, так яны і ляжаць. Па магазіне ўжо вялікія страты, таму спісаць чамусьці нельга. А грошы ў курэй укладзеныя. З часам самі работнікі магазіна будуць выкупляць былых квактушак.

Магазін павінен выбраць фонды на птушку. Курэй–ветэранаў, якія па ўзросце не маглі ўжо несці яйкі, завезлі з доследнай занальнай станцыі, што ў Заслаўі. Хутчэй за ўсё, іх адправілі б (а можа, і адправяць) на "перапрацоўку" і прывезлі назад у новай якасці – куры вэнджаныя.

У гэтай жа камеры знаходзілася 7 кілаграмаў рагу з ялавічыны. Па дакументах – завезенай 22 верасня. На момант праверкі прайшло 3 дні. А тэрмін рэалізацыі ўсяго суткі. Смярдзючыя чорныя косткі – таксама маёмасць магазіна, і спісаць непрададзены тавар, быццам бы, таксама немагчыма. Дарэчы, у адным халадзільніку з гнілымі прадуктамі ляжала масла, закладзенае на зіму. Не здзіўляйцеся, калі купленае ў "Гасцінцы" масла будзе гарчыць, мець спецыфічны пах.

А вось дырэктар прадуктовага магазіна "Дыфор" **Галіна Асокіна** не толькі арганізуе гандаль, але і змагаецца са зладзеямі. З 40 кошыкаў для пакупнікоў у магазіне засталося толькі 10. Выносяць нават нажы з хлебнага аддзела. Звычайна караюць тых, хто не дагледзеў, бо змены прадаўцоў хаваюць адна ад адной нажы для масла, сыру.

– Улады абавязваюць нас выкарыстоўваць форму самаабслугоўвання. Аднак "адкрыты прылавак" будзем закрываць, – гаворыць дырэктар. – Бывае, на 100 тысяч чалавек купіць, яшчэ на 200 тысяч украдзе. Раней набіралі прадаўцоў па конкурсе. Кадры не замацаваліся. Цяпер у гандлёвай зале працуюць 18–гадовыя, без досведу, без практыкі. Дзяўчаты саромеюцца ў сумкі пакупнікоў зазіраць.

Яны, дарэчы, і права не маюць на гэта. Але ўразілі здзіўленыя пытанні Галіны Асокінай:

– Няўжо на малочнай прадукцыі (этыкетках, пакетах) значыцца апошні тэрмін рэалізацыі? Няўжо ў нашым магазіне не працуе ўстаноўка вакуумнай фасоўкі?

Зразумела, гэта хітрыкі, каб апраўдаць наяўнасць тавару на паліцах з сышоўшым тэрмінам рэалізацыі – тварог, бекон, рулет, вэнджаніна.

У магазіне №40 гандлёвага дома "Тройка" у халадзільніку, мы ўбачылі трохлітровы слоік з жаўткамі яек.

– Не ведаю, куды вынікі бою падзенуць прадаўцы, – гаворыць, намеснік дырэктара магазіна **Ірына Суднікові**ч.- На выпечку ў кандытарскі цэх мы звычайна не даем. Хутчэй за ўсё, гэтыя яйкі работнікі забяруць сабе.

Побач ляжала кілбаса. Гэта суседства- сур'ёзнае парушэнне нормаў.

Усе названыя ў матэрыяле адказныя работнікі гандлю аштрафаваныя.

Пасля рэйду загадчыца аддзела эпідэміялогіі **Людміла Ермачэнка** адзначыла, што ўбачаныя парушэнні не залежаць ад формы ўласнасці магазінаў – прыватны ён ці дзяржаўны. Усё залежыць ад канкрэтных людзей. Інакш кажучы, які поп...

***Васіль САВІЦКІ.***

